# наша свабода

№37 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

5 ЛІПЕНЯ 2000 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## ЗША АДМЯНЯЮЦЬ НАМ ІЛЬГОТЫ

# «Мы супраць выбараў без выбару»

Аляксей СТАЎСКІ

**Апазіцыя адмаўляецца ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах, што будуць ладзіцца ўвосень беларускімі ўладамі. Так вырашылі больш за 900 дэлегатаў чацвёртага Кангрэса дэмакратычных сілаў, што прайшоў у Мінску ў мінулую нядзелю.**



Кангрэс дэмакратычных сілаў пачаўся спевам «Пагоні» Максіма Багдановіча

Фота Ул.ШЛАПАКА

У фінальнай рэзалюцыі партыі не проста заяўляюць пра свой няўдзел у выбарах, але і забараняюць усім сваім чальцам асобна балатавацца ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. У абгрунтаванне сваёй жорсткай пазіцыі дэлегаты кангрэса заявілі: «Выбары дзякуючы намаганням улады ператвараюцца ў фарс, удзел у якім для дэмакратычных сілаў немагчымы».

Фарс, на думку ўдзельнікаў кангрэса, заключаецца ў тым, што ўлады так і не зрабілі ніводнага рэальнага кроку для выканання чатырох умоваў, неабходных для правядзення свабодных, дэмакратычных і справядлівых выбараў. Сярод гэтых умоваў – спыненне палітычных рэпрэсіяў і вызваленне палітвязняў, прывядзенне выбарчага заканадаўства ў адпаведнасць з еўрапейскім стандартам, забеспячэнне рэальнага доступу апазіцыйных партыяў да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі і наданне парламенту рэальных уладных паўнамоцтваў.

Рашэнне кангрэса пра няўдзел у выбарах датычыць таксама працы ў выбарчых камісіях і дасылання на выбары назіральнікаў. Дэлегаты заклікалі АБСЕ і іншыя міжнародныя арганізацыі не дасылаць назіральнікаў на восеньскія выбары і ўвогуле не прызнаваць іх.

Апроч галоўнай рэзалюцыі па выбарах, Кангрэс дэмакратычных сілаў прыняў яшчэ некалькі рашэнняў. У прыватнасці, ён выказаў падтрымку Усебеларускаму з'езду за незалежнасць, правядзенне якога запланавана на 29 ліпеня.

Яшчэ адным важным вынікам кангрэса можна лічыць далейшае збліжэнне пазіцыяў дэмакратычных партыяў і рухаў. У нядзелю Кардынацыйная рада дэмакратычных сілаў папоўнілася прадстаўнікамі Беларускай партыі працы, партыі жанчынаў «Надзея», Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Станіслава Шушкевіча, Прэзыдыума Вярхоўнага Савета і некаторых іншых арганізацыяў і прафсаюзаў. Раней у радзе былі прадстаўленыя толькі Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада), Беларускі Народны Фронт і аргкамітэт грамадзянскай ініцыятывы Хартыя'97.

На прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў перапынку працы кангрэса, журналістаў вельмі цікавіла пытанне пра верагодную тактыку апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах, запланаваных на 2001 год. Тут думкі лідэраў розных партыяў разышліся. Аднак усе пагадзіліся з думкай старшыні БНФ Вінцука Вячоркі, які сказаў, што пра нейкую тактыку можна будзе казаць толькі пасля заканчэння кампаніі па выбарах у парламент. ■

# Беларускі сюзерэнітэт – альтэрнатыва суверэнітэту



Фота Ул.ШЛАПАКА

Канстанцін МАТУСЕВІЧ

**3 ліпеня Беларусь святкавала 56-я ўгодкі вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У гэты дзень была вызвалена сталіца, а выгнанне немцаў з усёй тэрыторыі Беларусі цягнулася па верасень. Для краіны, якая страціла за гады вайны болей за 2,5 мільёна насельніцтва, Дзень вызвалення – самае значнае свята.**

Але апошнія гады гэтае свята намаганнямі ўрадавых ідэолагаў набыло іншы фармат. Абвешчанае Днём незалежнасці і Днём Рэспублікі, яно займела штучны, няўцямны змест. Прыкладам, за ўсё жыццё мне не давялося хоць аднойчы пачуць ад удзельнікаў вызвалення Беларусі, што яны змагаліся за яе незалежнасць. Таму дзіўна слухаць прамовы галоўных кіраўнікоў краіны, якія на свяце падкрэслівалі здабытую 56 гадоў таму "незалежнасць".

Што азначалі ў 1944 годзе словы «незалежнасць рэспублікі»? Хто гэтак тады думаў і, тым больш, гаварыў? Той, хто гаварыў, трактаваўся як нацыяналіст і надоўга ехаў на Поўнач.

Пры жыцці Сталіна аперацыя «Баграціён» уваходзіла ў лік «10 сталінскіх удараў», якія прывялі да Перамогі над гітлераўскай Германіяй. Спалучэнне паняццяў «Сталін» і «незалежнасць Беларусі» відавочна бязглуздае. Якая там «незалежнасць», калі напрыканцы 1944 года ад незалежнай Беларусі адрэзалі абшар Беласточчыны і перадалі Польшчы. Не пытаючыся ў насельніцтва, урада, дэпутатаў, партызанаў і да т.п.

Няма ніводнай падставы меркаваць, што ўдзельнікі партызанкі Мазураў з паплечнікамі, а потым Машэраў з паплечнікамі былі менш разумныя, чым сённяшнія кіраўнікі Беларусі са сваёй ідэалагічнай камандай. Тым не менш, хоць тыя і змагаліся з акупантамі асабіста, але чамусьці не назвалі Дзень вызвалення Днём незалежнасці. Бо якая магла быць незалежнасць у таталітарнай дзяржаве імперскай традыцыі? Сённяшнія штучныя прывязкі «незалежнасці» да Дня вызвалення аб'ектыўна не супадаюць з гістарычнай аб'ектыўнасцю. Ніводная іншая рэспубліка былога СССР, якая зведала нямецкую акупацыю, святкуючы Дні вызвалення, не надала ім статус свята Незалежнасці.

Да 1991 года Беларусь мела якасць адной з трох галоваў (СССР, Украіна, Беларусь) саюзнага тулава, якія заўжды для гучнасці казалі разам адны і тыя ж словы. Унутры Саюза Беларусь была ў сюзерэнных адносінах з Крамлём, які канцэнтраваў перанятую расійскую дзяржаўнасць. Цяпер нашыя кіраўнікі старанна вяртаюць Беларусь у гэты страчаны пасля набыцця незалежнасці ў 1991 годзе стан. Асноўныя адзнакі незалежнасці пастаўленыя пад знішчэнне – мова, знешняя палітыка, межы, эканоміка. З гэтакай мэтай зручна прывязваць Незалежнасць да Дня вызвалення. Бо гэтае свята неаспрэчнае. А вызваленне праводзіла Савецкая армія, што можна трактаваць як надзвычайны ўклад «расіяна» ў нашую незалежнасць. ▶

Заканчэнне на стар.3

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Сёння адбудзецца афіцыйнае адкрыццё дзевятага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».** Цікава, што фестываль пачаў працу ўжо пазаўчора, 3 ліпеня. Арганізатары мерапрыемства паведамілі, што гэтымі днямі на фестывалі будзе працаваць адразу 16 пляцовак, на якіх адбудзецца 120 культурна-масавых мерапрыемстваў. Да ўдзелу ў іх запрошаныя каля 5 тысяч гасцей з 25 краінаў свету. Краіны, якія ўдзельнічаюць у фестывалі, могуць выставіць на вакальны конкурс 1-2 выканаўцаў. Сёлета беларускую эстраду на фестывалі будуць прадстаўляць 20-гадовая мінчанка Вікторыя Алешка і 29-гадовая жыхарка Гродна Таццяна Глазунова.

■ **6,5 кілаграма ртуці было знойдзена 2 ліпеня на сметніку непадалёк ад Брэста.** Як паведаміла прэс-служба ўпраўлення міністэрства па надзвычайных сітуацыях па Брэсцкай вобласці, у пажарную службу пазваніў чалавек, які пажадаў застацца невядомым, і паведаміў пра небяспечную знаходку. Сапраўды, ва ўказаным месцы – на сметніку ў 500 метрах ад гарадской мяжы Брэста – ляжалі дзве ёмістасці (бляшанка і шкляная бутэлька), у якіх знаходзілася ртуць. Разлітай ртуці знойдзена не было, таму дэзактывацыя не праводзілася. Небяспечная знаходка была змешчаная ў металічны кантэйнер і дастаўленая ў аддзяленне радыяцыйна-хімічнай разведкі. Абставіны здарэння высвятляюцца.

■ **Францыя стала на чале Еўрапейскага саюза, замясціўшы сабой Партугалію.** Гэта адбылося напачатку ліпеня. Цяпер да 2001 года менавіта Францыя будзе весці 15 краінаў ЕС наперад, у светлую будучыню. Французскі прэзідэнт Жак Шырак ужо заявіў пра неабходнасць заняцца інстытуцыянальнымі рэформамі ў рамках Еўрапейскага саюза. Гэта вельмі цяжкая, але ўдзячная праца – асабліва калі ўлічыць, што ў бліжэйшыя некалькі гадоў склад ЕС мусіць пашырыцца аж но да 30 краінаў. Тым часам у Еўропе пачаўся сезон адпачынкаў, таму да пачатку верасня не варта чакаць ад аб'яднанай Еўропы нейкіх істотных зменаў.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

980

 



АРЫЕНЦІР

# «Яблоко» стучало для ФСБ

**Иван ПЕТРОВ**

В понедельник возле здания ФСБ на Лубянке молодежная организация «Яблоко» устроила акцию протеста под названием «Вы хотели сделать из нас стукачей — мы пришли постучать!».

Молодые люди принесли с собой барабан, пустые кастрюли и пивные кружки, чтобы «стучать» в них. «Яблочники» протестовали против стукачества, которое, по их словам, «ФСБ снова пытается внедрить в общество».

Основанием для этой акции стало то, что питерского студента Дмитрия Барковского пыталась завербовать ФСБ, чтобы он поставлял информацию о «Яблоке».

Протестующих было не много, в руках у них были плакаты: «Вы хочете стука — их есть у меня!», «Других стукачей от нас не дождетесь!». Подобная акция против стукачества прошла сегодня и в Санкт-Петербурге. ■

# ЗША адмяняюць ільготы для Беларусі



Фота AP

**Міхась КАРПОВІЧ**

**Амерыка пазбавіла Беларусь знешнегандлёвых льготаў.**

Указ аб спыненні агульнай сістэмы гандлёвых прэферэнцыяў (СГП) падпісаў амерыканскі прэзідэнт Біл Клінтан напярэдадні нацыянальнага свята – Дня незалежнасці 4 ліпеня. Згодна са стандартнай працэдурай, рашэнне ўступае ў сілу праз 2 месяцы пасля падпісання яго прэзідэнтам.

У заяве, якая была распаўсюджаная ў Вашынгтоне прадстаўніком ЗША на гандлёвых перамовах Шарлен Баршэўскі, паведамляецца: Беларусь цяпер пазбаўленая права бяспошліннага ўвозу тавараў на амерыканскі рынак – з-за таго, што «ўрад працягвае абмяжоўваць правы прафсаюзаў і пераслед прафсаюзных лідэраў».

Па словах Ш.Баршэўскі, рашэнне Б.Клінтана абапіраецца на сведчанні пра тое, што беларускія ўлады прадпрымаюць недастаткова намаганняў, каб сітуацыя ў Беларусі адпавядала «міжнародна прызнаным правам рабочых».

Летась Беларусь ўвезла ў ЗША тавараў на 79,7 мільёна долараў, з іх беспошлінна – на 26,7 мільёна долараў. Цяпер Беларусі давядзецца плаціць пошліны ў памеры каля 5%. Цалкам магчыма, што ў выніку беларускія тавары на амерыканскім рынку стануць неканкурэнтаздольнымі. Дарэчы, у адпаведнасці з існуючай у ЗША праграмай эканамічнага садзеяння, каля 140 краінаў свету маюць права ўвозіць на амерыканскі рынак пэўныя тавары бяспошлінна.

Шарлен Баршэўскі таксама прадставіла даведку, з якой вынікае, што яшчэ ў 1997 годзе прадстаўнікі Федэрацыі амерыканскіх прафсаюзаў AFL/CIO, якая аб'ядноўвае каля 13 мільёнаў чалавек, накіравалі ва ўрад ЗША пратэст з патрабаваннем пазбавіць Беларусь права на льготы з-за парушэнняў правоў рабочых. Амерыканскія ўлады стварылі адмысловую камісію, якая пацвердзіла абвінавачванні прафсаюзаў і заявіла, што, нягледзячы на запісанае ў Канстытуцыю Беларусі права на дзейнасць прафсаюзных арганізацыяў, «на практыцы гэтыя правы не рэалізуюцца і незалежныя прафсаюзы забараняюцца».

Мы ўжо паведамлялі, што незалежныя прафсаюзы Беларусі, адчуўшы цяжкасці пры сваёй перарэгістрацыі, ужо неаднаразова прасілі Міжнародную арганізацыю працы і замежныя прафесійныя саюзы (не толькі амерыканскія, але і еўрапейскія) паўплываць на беларускія ўлады. Амерыка зрабіла першы крок. Можна чакаць такіх крокаў і ад Еўропы – Германіі, Францыі ды іншых краінаў, дзе прафсаюзы маюць рэальную вагу. ■

ГРАМАДСТВА

# Беларускі сюзерэнітэт – альтэрнатыва суверэнітэту

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

За новымі трактоўкамі хаваецца арыентацыя на сюзерэнітэт. Сюзерэнам будзе, як і раней, Масква, васалам – Мінск. Наадварот быць не можа апрыорна, бо дзейнічаюць газ, нафта, лінгвацыд, памеры тэрыторыі. Лагічна вынікаюць з гэтага агульныя ваенныя групоўкі, запалохванне народа злосным NATO, магчымасцю захаваць фізічнае існаванне пад парасонам расійскай дзяржавы.

Ці варта забываць, што Беларусь ужо зведала вынікі савецка-нямецкай дамовы пра перадзел Еўропы ад жніўня 1939 года, і агульная савецкая дзяржава не здолела абараніць яе тэрыторыю? 3 ліпеня 1944 года вызваленая ад немцаў Беларусь атрымала да ваенны сталінізм. Ніхто з урадаўцаў пра гэта не ўзгадаў. Няўжо ім мроіцца аднаўленне гэткай «незалежнасці»? ■



Фота Ул. ШЛАПАКА

СУСЕДЗІ

# У нас і на Украіне ўлады помсцяць аднолькава

**Таццяна СНІТКО**

**Гісторыя з захопам у Кіеве будынка ЦК КПУ працягваецца ў кіеўскім СІЗО «Лук'янівка» ўжо чацвёрты месяц. Як паведамляла НАША СВАБОДА, Цэнтральны офіс украінскіх камуністаў 9 сакавіка «акупавалі» дзесяць хлопцаў і адна дзяўчына.**

Яны правялі ў ім каля 13 гадзінаў. Папярэдне «захопнікі» пагражалі ў выпадку штурму будынка спецназам учыніць самаспаленне. Абодва бакі, аднак, пайшлі на саступкі пасля перамоваў з пасярэдніцтвам пяці дэпутатаў Вярхоўнай Рады і прадстаўнікоў урада, якія паабяцалі разгледзець на вышэйшым узроўні высунутыя патрабаванні — ад суда над КПСС–КПУ да выхаду Украіны са складу СНД і вываду з Крыма расійскіх войскаў.

Пасля арышту радыкалаў даставілі ў Падольскі райаддзел міліцыі, дзе яны правялі ў ізалятары часовага ўтрымання замест дапушчальных законамі краіны трох сутак тры з паловай тыдні. Як сведчаць праваабаронцы з украінскага камітэта «Хельсінкі-90», за гэты час ад падследных у выніку фізічнага і маральнага ціску былі атрыманыя паказанні, ад якіх тыя пачалі адмаўляцца пасля пераводу ў СІЗО. У заявах гэтых людзей у «Хельсінкі-90» і ў пракуратуру пералічваюцца метады ўціску (пырсканне слезацечным газам у перапоўненую камеру ноччу, нядопуск адвакатаў, запрошаных падследнымі, падман сваіх падабаронных адвакатамі, якія працуюць пры Падольскай пракуратуры, і г.д.).

Сярод «захопнікаў» – студэнты кіеўскіх ВНУ, мастакі, школьны выкладчык гісторыі і правазнаўства. Са спасылкай на пракуратуру таксама падаюць нібыта сапраўдныя прычыны захопу офіса КПУ: узамен на абяцанкі кімсьці машыны, кватэры і грошы. Тым часам пракучмаўская арганізацыя «Молодь – надія України» абнародавала вынікі свайго «расследавання» гэтай справы. Згодна з імі, маладыя актыкамуністы мелі на мэце... скрасці з ЦК КПУ 400 тысяч долараў, што быццам бы засталіся ў офісе пасля выбараў прэзідэнта. Гэтыя грошы, кажа кіраўнік пракучмаўскай суполкі В.Гладчук, вынеслі ў кішэнях «нацыянальна свядомыя нардэпы». У сапраўднасці ж з захопленага будынка пасля арышту захопнікаў знікла 20.000 долараў, але іхні крадзеж прыпісваецца прадстаўнікам сілавых структураў.

Некаторыя партыі, у тым ліку Народны Рух, яшчэ ў сакавіку выказалі гатоўнасць узяць арыштаваных на парукі, але пракуратура катэгарычна супраць змянення ім меры стрымання. Пракурор г.Кіева Юрый Гайсінскі матывуе гэта звесткай, што, маўляў, выпушчаны пад падпіску пра нявыезд непаўналетні ўдзельнік захопу ўжо атрымаў бутэлькай па галаве ад невядомых. А таму турма – сродак абароны асабістай бяспекі маладых патрыётаў-радыкалаў... Матывацыя вельмі знаёмая беларусам па гісторыі з Тамарай Вінніковай. «Дэмакратыя і правы чалавека – ілюзія, *fata morgana* ў нашай краіне, – заявіла арыштаваная Наталля Нямчынава ў інтэрв'ю, якое ёй удалося перадаць на волю. – Абяцанкі прадстаўніка Кабінета міністраў, што нашыя патрабаванні будуць разгледжаныя і што да нас не будуць прымененыя суровыя ізаляцыйныя захады, аказаліся хлуснёй».

Назіральнікі схіляюцца да думкі, што Кучму выгадна абараняць права камуністычнай партыі на легальнае існаванне не толькі дзеля дэкляраванай роўнасці поглядаў і прынцыпаў дэмакратыі. Ва Украіне відавочна склалася сітуацыя па тыпе расійскай, калі на выбарах народ абірае «меншае зло» паміж камуністамі і партыяй улады. ■

# «Надеюсь, что такого не произойдет»

## Экс-министр обороны Польши Януш Онышкевич о белорусской военной политике в интервью корреспонденту «Независимого военного обозрения»

**Игорь КОРОТЧЕНКО**

**Януш Онышкевич родился в 1937 г. во Львове. В 1980-м стал одним из основателей «Солидарности». С 1989-го по настоящее время – член парламента. В 1991–1992 гг. – заместитель министра обороны, с 1992 по 1993 г. – министр обороны Польши. В 1993–1997 гг. – заместитель председателя комитета национальной обороны и член комитета по международным делам парламента. С октября 1997 по июнь 2000 г. – министр обороны Польши.**



***– Господин Онышкевич, российско-белорусское военное сотрудничество набирает обороты. Как воспринимают это в Варшаве?***

– Мы всегда считали и считаем, что любая страна имеет право присоединиться к такому союзу, который выгоден с точки зрения ее национальных интересов. Хотя мы надеемся, что данная страна будет рассматривать свои интересы в более широком контексте, а именно – в контексте региональной стабильности во всей Европе. Кстати, именно исходя из этого принципа, мы считали, что Польша может присоединиться к NATO. Согласно данной точке зрения, у Беларуси имеется право на вступление в тот или иной военный союз. В то же время есть несколько моментов, которые беспокоят Польшу.

Для нас важно, какие формы будет приобретать военное сотрудничество Москвы и Минска. Когда мы присоединялись к NATO, мы заявили, что не видим необходимости размещения в Польше натовских контингентов войск и хранилищ ядерного оружия.

Поэтому для нас было бы очень важным ориентироваться относительно перспектив процесса военной интеграции между РФ и Беларусью. Не приведет ли это в какой-то момент к тому, что на белорусской территории будут размещены российские части. Это, конечно, изменило бы весь контекст российско-польских отношений. Должен сказать, что от наших российских партнеров мы получаем все время заверения о том, что таких планов нет.

***– А вот главнокомандующий РВСН генерал-полковник Владимир Яковлев недавно заявил, что в случае выхода США из договора по ПРО Россия в качестве ответных мер может выйти из договора по РСМД. Учитывая известные инициативы президента Лукашенко, не исключено, что в Беларуси могут появиться российские оперативно-тактические ракеты с ядерными боеголовками.***

– Это решение радикально ухудшило бы стратегическую ситуацию в Европе. Кроме того, я совершенно не вижу причин для того, что Россия должна именно таким образом реагировать на американские инициативы. Это абсолютно неадекватно. Надеюсь, что такого не произойдет.

Насколько я знаю, по проводимым постоянно переговорам в рамках NATO американцы действительно рассматривают возможность модернизации системы ПРО. Но эти меры призваны обеспечить защиту США от ракетного нападения со стороны непредсказуемых стран. Соединенные Штаты ведут постоянный диалог с РФ в надежде на то, что будет принято решение, которое для России станет приемлемым.

***– Вы знакомы с направленностью боевой подготовки белорусских ВС и характером проводимых ими учений?***

– Нас беспокоит, что в различных военных учениях, проводимых в Беларуси, разыгрываются сценарии нападения со стороны NATO. Дело в том, что такого рода сценарии нагнетают атмосферу недоверия. Совсем недавно у нас проходили штабные учения. Тема – кризисное реагирование. Согласно замыслу учений, было две страны, в отношении которых следовало принять меры. В одной стране моделировалась ситуация, похожая на ситуацию в Югославии, вторая страна представляла угрозу NATO в качестве агрессора. Мы рассматривали такие страны условно, разместив их в Атлантическом океане, а для практической отработки действий наших войск использовали карты одного из островов на Филиппинах. И все это для того, чтобы не создавать впечатления, что мы ведем эти учения с какой-либо направленностью.

***– Как вы с профессиональной точки зрения оцениваете действия российских войск в Чечне?***

– Боевые действия в Чечне на этот раз явно и существенно отличаются от того, что делалось там несколько лет назад. Они ведутся современными методами. Я не берусь высказываться на тему, насколько они адекватны складывающейся ситуации. Но нынешняя кампания дала повод для того, чтобы ВС РФ стали избавляться от синдрома отчуждения.

Важно, чтобы Россия была стабильной страной, у которой имеется осознание своего места в Европе. Но это возможно лишь в том случае, если РФ будет демократическим государством, в котором нет места имперской ностальгии. Мы внимательно следим за тем, чтобы успехи российской армии в Чечне не явились катализатором для роста имперских настроений среди политической и военной элиты России. ■

**Печатается в сокращении. «НВО»**

 

СПОРТ

## Захмялелі ад поспеху

Алесь ШМЯЛЁЎ

Буйной паразай з лікам 2:6 завяршыўся візіт магілёўскага «Дняпра-Трансмаша» ў чэшскую вёску Блшаны да мясцовага футбольнага клуба «Хмель». Сустрэча, якую мы ўжо анансіравалі, праходзіла ў рамках другога этапа розыгрышу еўрапейскага Кубка Інтэртата. Раней магіляўчане ў першым этапе двойчы перамаглі дацкі «Сількеборг» і глядзелі на магчымасць перамогі над даволі слабым чэшскім клубам з вялікай доляй упэўненасці. Верагодна, занадта завышаная самаацэнка і згуляла дурную гульню з «Дняпром-Трансмашам». Тэарэтычныя шансы на агульную перамогу яшчэ застаюцца, паколькі ў гэтую суботу ў Магілёве пройдзе гульня ў адказ, у якой гаспадарам трэба будзе перамагаць з розніцай у чатыры мячы.

## Французы ўзялі Кубак Еўропы

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Перамогай у фінале зборнай каманды Францыі над італьянцамі з лікам 2:1 завяршыўся ў нядзелю розыгрыш футбольнага Кубка Еўропы, які праводзіцца раз на чатыры гады. Французы, якія здабылі перамогу на самым фінішы гульні, здолелі зламаць адну з спрадвечных футбольных традыцыяў. Згодна з ёй, ніколі яшчэ еўрапейская каманда, якая выйгравала апошні чэмпіянат свету, не атрымоўвала пасля перамогу ў розыгрышы Кубка Еўропы. І вось французы, якія перамаглі на сусветным футбольным форуме ў 1998 годзе, цяпер адначасова і дзейнічаючыя чэмпіёны Еўропы.

Наступным буйным розыгрышам стане чэмпіянат свету, які пройдзе ўлетку 2002 года ў Японіі і Паўднёвай Карэі.

НОУ-ХАУ

## Черви спасают пермский футбол

Пермский футбольный клуб «Амкар» покупает червей по 10 рублей за пол-литровую банку. Черви нужны футболистам для приведения в порядок собственного футбольного поля.

За несколько лет существования грунт на нем настолько затвердел и покрылся ухабами и кочками, что срочно необходим ремонт. Самым эффективным и дешевым средством разрыхления почвы и приведения тем самым поля в порядок специально выписанный в Пермь из Москвы специалист-аграрник признал обыкновенных дождевых червей. Правда, чтобы привести 110-метровое поле в надлежащий вид, нужен как минимум миллион червей. Прикинув собственные силы, футболисты обратились за помощью к землякам, пообещав вознаграждение за труды.

Теперь местные бомжи и алкоголики, чтобы заработать на чекушку, бегают по городу с лопатками, пытаясь накопать пол-литровую баночку заветных червячков. А потом несут свою добычу на стадион. Сотрудник охраны, специально поставленный для контроля за поступлением червей, проверяет, чтобы принесенная пятисотка была целая. Только тогда он выдает награду – 10 рублей за банку.

В день приносят баночек 5–6. Клуб планирует к началу августа уже возобновить игры на своем преобразившемся поле.

**Газета.Ru**

## Гісторыя цацак

«Жыццё жукоў», «Меч у камені», «Балто», «Аліса ў краіне цудаў», «Прыгажуня ў сонным лесе» – мультыплікацыйныя фільмы, дубляваныя па-беларуску акторамі вядучых менскіх тэатраў.

«Азбука для маленькіх», «Ехаў казачнік Бай», «Цік-так ходзікі», «Беларускія народныя казкі», «Стойкі алавяны салдацік + Каліф-бусел» – аўдыёкасэты з запісамі казак, калыханак, песьняў для маленькіх беларусаў.

Цяпер і ў Віцебску: вул. Гогаля, 14, крама «Сучаснік».

Кошт відэакасэты – 2.000 руб.

Кошт аўдыёкасэты – 600 руб.

Зьвяртайцеся на тэл.: 8 (017) 228-45-88.

Касэты можна замовіць, пералічыўшы грошы звычайным паштовым перакаазам на рахунак ЗАТ «Сотвар» р/р 3012000000195 ф-л № 506 ААТ СБ «Беларусбанк», г.Мінск, код 809. У графе «Для пісьмовага паведамлення» напішыце, якую касэту вы замаўляеце.







# Капитализм против демократии

Джордж СОРОС, председатель Института открытого общества

**Демократия шествует по всему миру. Тоталитарные и авторитарные режимы были сметены с лица земли. Растет отвращение ко всем оставшимся режимам подобного рода. Но говорить о победе еще слишком рано. Потому что победа капитализма еще не означает триумфа демократии.**



Связь между капитализмом и демократией далека от автоматической. Репрессивные режимы не очень торопятся отречься от власти, и в этом их часто поддерживают интересы бизнеса как иностранного, так и внутреннего, особенно в странах, где есть такие ресурсы, как нефть или алмазы. Возможно, сегодняшняя наибольшая угроза свободе возникает именно из порочных союзов между правительством и бизнесом, в таких, например, странах, как Перу, Зимбабве, Малайзия, или среди олигархов России, где наблюдается появление демократического процесса, но где тем не менее государственная власть направлена на удовлетворение частных интересов.

Капитализм создает богатство, но на него нельзя полагаться, когда дело идет о защите свободы, демократии и правлении закона. Бизнес руководствуется выгодой, он не приспособлен для обеспечения общечеловеческих принципов. Даже сохранение самого рынка требует чего-то большего: участники рынка борются за победу, и если бы они могли, они бы уничтожили конкуренцию. Поэтому свобода, демократия и правление закона не могут быть оставлены на произвол рыночных сил, нам необходимы институционные системы защиты.

Традиционно защита общих интересов была задачей национального государства. Но власть государства усохла с расширением рынка глобального капитала. Поскольку капитал сегодня может уйти из государств, в которых есть налоги и регулирование, правительства прислушиваются к его требованиям. Свободная конкуренция создает больше богатства, чем правительственный контроль; глобализация предотвращает государственные злоупотребления властью и предлагает такой уровень свободы, который ни одно государство предоставить не может.

Но у глобализации есть и другая сторона: финансовые рынки нестабильны, свободная конкуренция создает и укрепляет неравенство на национальном и международном уровне; коллективные интересы, начиная с сохранения мира и заканчивая правами человека и защитой окружающей среды, не получают должного внимания. Чтобы вполне воспользоваться преимуществами глобализации, мы должны решить подобные проблемы на международном уровне.

К сожалению, существующие международные институты, подобные ООН, не подходят для соблюдения всеобщих интересов, потому что они являются ассоциациями государств, а государства ревностно защищают свои собственные интересы. Более того, недостатки государственной бюрократии только преумножаются внутри бюрократии международной.

В современном мире большинство конфликтов происходят не между государствами, а внутри государств. Для людей, живущих при репрессивном режиме, внешняя защита является единственно возможной. Демократические страны не могут оставаться безучастными к грубым нарушениям прав человека и обязаны вмешиваться во внутренние конфликты. Даже если они и откажутся от вмешательства, им придется столкнуться с потоком беженцев и другими формами последствий конфликта.

Югославия показала, что, как только конфликт прорывается на поверхность, большинство форм вмешательства карательного характера приводят к неожиданным, противоположным результатам. Торговые санкции приводят к расцвету контрабанды, а контрабандисты, как правило, вступают в сговор с властями, поэтому эти санкции обычно только укрепляют правительства, против которых они направлены. Военные действия обычно заставляют умолкнуть внутреннюю оппозицию режиму, против которого они направлены.

Вмешательству следует предпочитать предотвращение кризиса; лучший способ предотвратить кризис состоит в развитии открытого общества. Вот в чем состоит задача моей сети фондов. Открытое общество позволяет людям с различными взглядами и интересами сосуществовать мирно.

Я выступаю за объединенные усилия развитых демократий в деле развития демократии в менее развитых странах мира. Эти усилия могут принять форму технической помощи или экономических стимулов. Экономику и политику нельзя разделить. Нобелевский лауреат Амартия Сен выдвинул резонный аргумент о том, что развитие должно определяться в отношении уровня свободы, а не валового национального продукта.

Глобальная капиталистическая система создала неравные условия игры. Разрыв между богатыми и бедными становится все шире. Мы должны найти способ противостоять этому, потому что система, которая не предлагает надежду и шанс на победу для проигравших, может быть подорвана актами отчаяния. По контрасту экономическая помощь может привести к демократическому развитию, но ее можно использовать также как рычаг против непокорных правительств.

К сожалению, эта идея не пользуется широкой поддержкой. Иностранная помощь не оправдала себя в Африке и в посткоммунистических государствах, стоит на грани провала на Балканах. Но это не означает, что мы должны совсем отказаться от такой идеи. Скорее, мы должны понять причины ее поражения и придумать лучшие способы ее реализации. Иностранная помощь также часто направлена на удовлетворение интересов донора, а не получателя.

Недавние перемены в глобальной финансовой архитектуре направлены исключительно на установление еще большей рыночной дисциплины. Цель состоит в том, чтобы устранить моральный вред, причиненный МВФ. Кредо сегодняшних рыночных фундаменталистов страдает от неспособности принять тот факт, что финансовые рынки нестабильны по определению.



Открытое общество нацелено на помощь таким людям

Тоже самое относится и к Организации международной торговли. Существует острейшая необходимость и в трудовых стандартах, и в защите окружающей среды. Но бедные страны не могут позволить себе такую роскошь. Установление этих стандартов в бедных странах должно проводиться не с помощью карательных мер, а с помощью стимулов, таких, например, как снижение тарифов.

Комиссия Мельтцера, основанная Конгрессом США, недавно порекомендовала превратить Мировой банк из кредитора в Мировое агентство развития. Прекрасная идея, но Комиссия Мельтцера сократит Мировой банк, возвратив неиспользованный капитал владельцам акций, то есть выполнив лишь крупный перевод ресурсов богатым. Я бы направил неиспользованный капитал на продуктивные цели и на расширение деятельности Банка по распределению грантов.

Мировой банк также должен перестать настаивать на том, чтобы правительства выступали гарантами кредитов, что даёт правительствам контроль над компаниями частного сектора, местными властями или неправительственными организациями, получающими финансирование.

Я предлагаю, чтобы открытые общества мира сформировали альянс с двойной целью: помощь развитию открытого общества в отдельных странах и эволюция глобального открытого общества.

Такой альянс требует сотрудничества не только правительств, но и гражданского общества. Правительства представляют интересы государства, но демократические правительства чувствительны к желаниям избирателей. Только при том условии, что народ верит в открытое общество, выходящее за рамки национальных границ, такое общество может быть построено. До сих пор гражданское общество было мобилизировано только для разрушения международных институтов, как это было продемонстрировано на недавних протестах против ВТО и Мирового банка в Сиэттле и Вашингтоне. Мы должны изменить тенденцию и начать движение за создание общего открытого общества. Мировой форум демократии, проведенный в Варшаве с 25 по 27 июня, стал прекрасным началом этого процесса. Ситуация требует его развития.

**© Project Syndicate**



Галоўны рэдактар Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1787 Нумар падпісаны ў друк 04/07/2000 (15:00) Наклад – 8.930